№№35–36
(3574–3575)
2 сакавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

### Латвія папярэдзіла сваіх

МЗС Латвіі заклікаў прадпрымальнікаў краіны ўлічваць, што Еўрасаюз можа ўвесці эканамічныя санкцыі супраць Беларусі.

Па словах дзяржсакратара МЗС краіны **Андрыса Тэйкманіса,** рашэнне пра такія санкцыі ЕС можа прыняць на працягу месяца. Чыноўнік заявіў, што МЗС плануе абмеркаваць з латвійскімі прадпрымальнікамі магчымыя наступствы санкцый.

# Што, Беларусь стане Паўночнай Карэяй у цэнтры Еўропы?

***Адкуль растуць карані дыпламатычнага скандалу, які разгарэўся паміж Беларуссю і Еўрасаюзам? Чым скончыцца дыпламатычная вайна паміж Мінскам і Бруселем?***

### *Генадзь БУРАЎКІН, былы прадстаўнік Беларусі ў ААН:*



— Для мяне відавочна, што дыпламатычны скандал, які грымнуў на гэтым тыдні паміж Беларуссю і Еўропай, у першую чаргу — вынік той абсалютна нерэальнай, незразумелай з пункту гледжання цывілізаванага свету знешняй і ўнутранай палітыкі, якая праводзіцца беларускім кіраўніцтвам. Раз-пораз Беларусь пазіцыяніруе сябе як вялікая дзяржава, якая здатная некага навучыць палітыцы, а іншым разам — прыкідваемся такімі беднымі, што ўсе нас павінны шкадаваць. Хаця насамрэч Беларусь — сур'ёзная еўрапейская краіна. І шлях Беларусі толькі ў Еўропу. Праўда, некаторыя нашыя палітыкі і дыпламаты не хочуць гэтага ўсведамляць. Ім не хапае палітычнай гнуткасці.

Мне хочацца верыць, што канфлікт паміж Беларуссю і Еўропай скончыцца кампрамісам. Але першы крок цяпер павінна рабіць наша краіна, бо інакш Беларусь трапіць у ізаляцыю і ў нейкай ступені мы станем Паўночнай Карэяй у самым цэнтры Еўропы... Мне прыкра, што мы ідзём такім шляхам.

### *Валерый КАРБАЛЕВІЧ, палітолаг:*



— Канфлікт гэты пачаўся не на гэтым тыдні, а 19 снежня 2010 года, адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў. Зараз узнік новы ўзровень гэтага канфлікту — паслы з'ехалі з Беларусі. Я не думаю, што афіцыйны Мінск, загадаўшы некаторым дыпламатам пакінуць краіну, меў нейкія мэты. Хаця рашэнне прымалася не толькі на эмоцыях. Ёсць у гэтага кроку і канкрэтныя вынікі. Па-першае, яўны пасыл Еўропе, што палітыка ціску не дае выніку, па-другое, ад'езд дыпламатаў сведчыць пра тое, што Лукашэнка абараняе сваю наменклатуру. Што б там афіцыйна ні казалі, але еўрапейскія санкцыі дзейнічаюць балюча. Пра гэта сведчыць спроба Беларусі ледзьве не купіць у Еўропы правы, каб некаторыя айчынныя бізнесмены свабодна ездзілі ў ЕС...

Што будзе далей? На маю думку, некаторы час канфлікт будзе замарожаны. У той жа час афіцыйны Мінск цудоўна разумее, што пасля гэтага кроку пра крэдыты ад МВФ ці Сусветнага банка можна забыцца, замарозяцца перамовы аб уступленні Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, хаця нашы суседзі-партнёры па ЕЭП — Расія і Казахстан — збіраюцца ўступіць туды сёлета... Існуе рэальная пагроза адмены чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску... Карацей, мінусы відавочныя...

І ўсё ж я прагназую, што еўрапейскія амбасадары вернуцца ў Мінск. Але ўмовай для іх вяртання стане вызваленне ўсіх палітвязняў.

### *Вадзім ГІГІН, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка»:*



— Усё закончыцца тым, што еўрапейскія паслы вернуцца ў Беларусь. Сітуацыя ўскладняецца тым, што зараз Еўрапейскі Саюз нервуецца. Апошнім часам інтэнсіўна ідуць працэсы інтэграцыі паміж Расіяй, Беларуссю і Казахстанам, а Еўрасаюз пацярпеў паразу ва Усходняй Еўропе — правалена падпісанне Дамовы аб арганізацыі свабоднага гандлю з Украінай, цалкам быў правалены праект "Усходняе партнёрства", калі дзяржавы-ўдзельніцы на варшаўскім саміце адмовіліся прымаць жорсткую рэзалюцыю па Беларусі... І да таго ж Еўрасаюз пастаянна церпіць паразы на беларускім накірунку. Таму зараз Еўропе трэба мяняць сваю палітыку да ўсходняга рэгіёна, аднак палітычнай волі на гэта няма, што і прыводзіць да хваляванняў і істэрыкі.

### *Станіслаў ШУШКЕВІЧ, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:*



— Дыпламатычны скандал, справакаваны Аляксандрам Лукашэнкам, мае на мэце наступнае: беларусам хочуць давесці, што ўнутраныя праблемы, якія існуюць у краіне, узніклі выключна па віне Захаду. Таму зараз Лукашэнка будзе біць у барабан і крычаць, што навокал ворагі, але мы не нахілімся і ў чарговы раз выстаім...

Хаця насамрэч гэты дыпламатычны скандал — праяўленне з боку беларускага кіраўніцтва палітычнай непісьменнасці і хамства. Таму што дыпламатычныя адносіны так не будуюцца.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**АФІЦЫЙНА**

## Палітыка ціску не мае перспектыў

***Андрэй САВІНЫХ**, начальнік Упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі:*

"Рашэнне Савета Еўрасаюза кажа пра тое, што Еўрасаюз працягвае прытрымлівацца палітыкі непрыхаванага ціску. Мы неаднаразова на ўсіх узроўнях тлумачылі бесперспектыўнасць такой палітыкі ў дачыненнях з Рэспублікай Беларусь.

У парадку адказу беларускі бок закрые ўезд у Беларусь тым асобам з краін ЕС, якія спрыялі ўвядзенню абмежавальных захадаў.

Пастаянны прадстаўнік Беларусі і пасол Беларусі ў Польшчы адкліканы ў Мінск для кансультацый.

Кіраўніку Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі і паслу Польшчы ў Беларусі таксама прапанавана выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці ціску і санкцый.

У выпадку працягу ціску на Рэспубліку Беларусь будуць зроблены і іншыя захады для абароны нашых інтарэсаў.

Мы спадзяёмся, што службовыя асобы ЕС і дзяржаў-удзельніц асэнсуюць загаиннасць сілавога шляху.

Прапановы Беларусі аб развіцці дыялогу, узаемадзеяння і супрацоўніцтва з Еўрапейскім Саюзам на аснове прынцыпаў раўнапраўя і ўзаемнай павагі застаюцца ў сіле".

**РЭЗАНАНС**

**Гидо ВЕСТЕРВЕЛЛЕ, министр иностранных дел Германии:**

"Мы не позволим запугивать себя разного рода акциями, направленными против европейских институтов или стран — членов ЕС. Мы не позволим другим нас разъединять. Диктатор обманывает себя, когда думает, что может нас разъединить".

**Вильям ХЕЙГ, министр иностранных дел Великобритании. В знак солидарности со странами ЕС Лондон также отозвал посла из Минска:**

"ЕС продолжит вводить новые санкции, пока сохраняются политзаключенные и продолжаются репрессии против гражданского общества. Я сожалею, что в этом отношении не было никаких позитивных сдвигов и что, напротив, репрессии не утихают и появляются новые политические заключенные".

**Аудронюс АЖУБАЛИС, министр иностранных дел Литвы:**

"Очень жаль, что Александр Лукашенко так поступил. Это не мудрый шаг, это большая ошибка".

### *Дональд ТУСК: «Жыве Беларусь!»*

*Прэм'ер-міністр Польшчы **Дональд Туск** звярнуўся да беларусаў па-беларуску.*

*"Калі на шалях будзе знаходзіцца лёс палітвязняў, то Польшча заўсёды будзе выказвацца за ўвядзенне санкцый"* — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Варшаве прэм'ер Польшчы Дональд Туск. Ён дадаў, што рэакцыя афіцыйнага Мінска на пашырэнне "чорнага спісу" ЕС сведчыць аб тым, што санкцыі *"б'юць у балючае месца рэжыму".*

Падчас прэс-канферэнцыі Дональд Туск спецыяльна звярнуўся да беларусаў і частку прамовы сказаў на беларускай мове: *"Я хачу сказаць пару слоў грамадзянам Беларусі. Будзьце моцнымі. Трымайцеся! Жыве Беларусь!"*

**ХРОНИКА**

## Послы, вон!

**Между Минском и Европой вновь начался период дипломатической войны. Послы всех стран Европейского Союза отозваны из белорусской столицы.**

**Сложно выделить некую точку отсчета, с которой началось обострение и без того достаточно холодных отношений между Беларусью и Европой. Визовые санкции в отношении более двух сотен судей, чиновников и силовиков во главе с Александром Лукашенко — это, как известно, не есть нововведение последних дней. Экономические санкции в отношении Беларуси Европа угрожала ввести, но все-таки не ввела. Обмен резкими заявлениями, колкостями, угрозами длился уже как минимум год. И вот прорвало. Причем ситуация начала обостряться с середины февраля.**

**10 февраля представитель ЕС Гуннар Виганд в ходе визита в Минск сообщил, что, поскольку белорусские власти не реагируют на призывы выпустить политзаключенных и, наоборот, усиливают давление на активистов оппозиции, список чиновников, которым будет запрещен въезд в Евросоюз, в ближайшее время может быть расширен.**

**Александр Лукашенко почему-то на этот раз отреагировал на угрозу крайне нервно. 20 февраля он принимал верительные грамоты от послов Норвегии, Люксембурга и Сан-Марино и сделал жесткое заявление. *"Если в Европе думают, что нас можно наклонить какими-то санкциями, упреками, требованиями, — это дорога в никуда. Вы должны понимать, даже если мы останемся в одиночку — без России, без Китая, без других наших друзей, — поверьте, мы будем насмерть стоять здесь, как когда-то в 1941-м, в 1945-м, защищая свою независимость и суверенитет",* — заявил президент. И сказал, что не позволит заходить за "красную линию".**

**Казалось, после этого европейцы решили ситуацию не обострять. 27 февраля министры иностранных дел стран-участниц ЕС обсуждали Сирию, Египет, Южный Кавказ, Косово, а также ситуацию на Ближнем Востоке. До последнего было не понятно, внесут ли в повестку дня "белорусский вопрос". Однако к саммиту глав МИД появился в Беларуси еще один политзаключенный — был вынесен приговор Сергею Коваленко. И белорусский вопрос внесли в повестку дня.**

**И все-таки очевидно, что Брюссель не готов идти на обострение. Хотя накануне и проскальзывала информация, что "черный список" белорусских чиновников может быть дополнен более чем сотней человек, что в нем могут оказаться видные бизнесмены, близкие к Александру Лукашенко, ничего этого не случилось. Евросоюз принял решение о включении в списки невъездных 21 человека — как и раньше, это судьи и милиционеры.**

**Но что тут началось! Минск все равно обиделся. Да еще как!**

**28 февраля белорусский МИД отзывает нашего посла в Польше и постоянного представителя в Европейском Союзе на консультации в Минск. Одновременно "на ковер" приглашены послы ЕС и Польши в Минске, которым рекомендуют в течение 24 часов покинуть белорусскую столицу и уехать к своему начальству для консультаций.**

**Реакция обычно неразворотливого, неторопливого, бюрократического Брюсселя наступает мгновенно. В тот же день, поздно вечером, созывается срочное совещание, на котором все страны ЕС принимают решение об отзыве из Минска своих послов в знак солидарности.**

**Те, кто должен был покинуть Минск первыми, уезжают уже 29 февраля. Глава представительства Евросоюза в Минске Майра Мора, отказавшись от каких-либо комментариев, сама села за руль автомобиля с дипномерами и моргнула провожающим фарами.**

**Польский посол Лешек Шерепка, перед тем как взять курс на белорусско-польскую границу, показал большой палец: мол, все будет хорошо.**

**Хотя случившийся дипломатический скандал сорвал празднование важной даты. 1 марта Беларусь и Польша должны были отметить 20-летие установления дипломатических отношений. Все праздничные мероприятия, естественно, были срочно отменены.**

**Послы остальных стран Евросоюза сами выбирают время для своего отъезда. Например, сегодня, в пятницу, покидает Минск посол Литвы Эдминас Багдонас, в воскресенье уедет посол Франции Мишель Ренери.**

**Как надолго послы попрощались с Минском? Они не знают ответа на этот вопрос. Но многие неофициально нам говорили: "Видимо, мы прощаемся до тех пор, пока Лукашенко не выпустит политзаключенных".**

**На 23 марта в Брюсселе уже назначено следующее заседание по Беларуси. Пока всё свидетельствует о том, что Европа отступать не намерена и, наоборот, настроена решительно.**

**Игорь МОРОЗОВ.**

**SOS!**

## Сяргей Каваленка ідзе на... смерць

### *Ахвяруе жыццём, каб чалавекам звацца*

Тры гадзіны доўжылася спатканне асуджанага ў Віцебску актывіста партыі КХП—БНФ Сяргея Каваленкі з жонкай Аленай. Навіны сумныя. Сяргей не спыніў галадоўку і не збіраецца гэтага рабіць. Фактычна ён ідзе на смерць.

*"Ён страціў ужо каля трыццаці кілаграмаў, яму нават цяжка сядзець, бо пад скурай зусім няма тлушчавай праслойкі. Ад слабасці ў яго круціцца галава, баляць сэрца, ныркі, печань,* — расказала Алена. — *Не, ён мне не скардзіўся, гэта я ўжо сама выпытвала".*

Тым не менш Сяргей Каваленка збіраецца галадаць і далей.

— Сяргей сказаў мне, што пойдзе ў сваім намеры да канца. Кажа, што ніколі не адчуваў у сабе такой маральнай сілы. Я ў пачатку размовы спрабавала прасіць, каб ён спыніў галадоўку, аднак муж адразу абарваў гэтыя размовы і сказаў, што больш з гэтага шляху не сыдзе. Дадаў, што лічыць ганьбай тое, што тады, раней, пачаў ёсці, — распавяла Алена.

Яна просіць усіх ратаваць мужа, яна не ведае, што рабіць... "Яго хопіць толькі на тыдзень!" — сцвярджае жанчына.

### За што асудзілі Сяргея Каваленку?

Два гады і адзін месяц калоніі Сяргей Каваленка атрымаў за тое, што 7 студзеня 2010 года вывесіў на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг, быў за гэта пакараны "хатняй хіміяй", але не сцішыўся, не схаваўся дома, працягваў актыўную дзейнасць. Як вынік — сапраўднае зняволенне за парушэнне рэжыму адбыцця пакарання.



**КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР**

*Стала вядома, што Сяргея Каваленку з Віцебска перавезлі ў Мінск, у Рэспубліканскі турэмны шпіталь. Пра гэта даведаўся бацька, які паспрабаваў наведаць сына.*

**ПРЯМАЯ ЛИНИЯ**

## Проблемы со слухом? Не падайте духом!

*— Что делать, если слабеет слух?*
*— Отчего возникает отит и как с ним бороться?*
*— Как победить храп?*
*— Обязательно ли удалять ребенку аденоиды?*
*— Что делать, если пропал голос?*
*— Как вылечить гайморит?*
*— Почему не рекомендуется чистить уши ватными палочками?*

*На эти и другие вопросы ответит **врач высшей категории, заведующая отделением оториноларингологии медицинского центра "ЛОДЭ" Ольга Николаевна МОРОЗОВА.***



*Звоните **сегодня, 2 марта, с 15.30 до 16.30 по телефону: 328-68-41.***

*Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте **nv@promedia.by** с пометкой "Прямая линия".*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Владимир НЕКЛЯЕВ

# Русский мат, или Пятый распил Беларуси



Один из самых информированных политиков и аналитиков Запада, заместитель Госсекретаря Соединенных Штатов Америки Филипп Гордон, сразу после тракайской встречи, где обсуждались планы Евроатлантического сообщества на 2012 год, дал интервью, на которое почему-то мало кто обратил внимание. Имея в виду достаточно напряженное отношение государств Балтийского региона и Польши к России, заместитель госсекретаря США посоветовал новым членам НАТО не выдавать собственные старые фобии за позицию Запада.

Россия — не враг Западу, убежден Филипп Гордон. Такая же позиция у руководителей ведущих европейских стран, определяющих политику Евросоюза. Эта точка зрения имеет полное право на существование хотя бы потому, что вся российская элита хранит свои деньги на Западе, учит детей на Западе, покупает на Западе жилье. То есть инвестирует в Запад, связывает с ним свое будущее. И совет господина Гордона свидетельствует: Запад это понимает. И принимает, поскольку это его полностью устраивает.

Это должно бы устроить и нас, белорусов. Чем более европейской становится Россия, тем, по идее, менее к лицу ей кольцо диктаторских и полудиктаторских режимов вокруг нее. Поэтому в связи с развитием отношений Россия—Запад были бы вполне уместны наши позитивные ожидания. Если бы не опасения в связи с приближающимися президентскими выборами в России.

4 марта в Кремль возвращается Владимир Путин, я бы сказал, личный враг Александра Лукашенко. Возвращается в новом — и, к сожалению, не лучшем — качестве. Легитимность его президентства в недавнем прошлом не вызывала сомнений. Легитимность его президентства в ближайшем будущем сомнения вызывает. Затеянная в Кремле пять лет назад и проведенная с демонстративным вызовом "рокировка" (мы, мол, договорились, а вы кто такие?) привела к небывалому в последние годы росту протестных настроений. Это стало вызовом Путину, поставило перед ним вопрос: куда дальше идти и что дальше делать?

Путин пойдет по пути Лукашенко, по пути игнорирования общественного мнения и "закручивания гаек", — уже сейчас предостерегают многие политики и журналисты. Западные и восточные. Что это значит? То, что "личный враг" может стать "личным другом". Личная неприязнь отступит перед необходимостью укрепления общего фронта авторитарных "государей".

Но Россия не представляет проблемы для Запада, — говорит господин Гордон. Да, она не соответствует западным стандартам демократии, но она им и не угрожает. А значит, вопрос о будущем Восточной Европы можно снять с повестки дня.

То есть можно снять с повестки дня вопрос о будущем Беларуси.

Уже сейчас очевидно, что в 2012 году белорусской ситуации будет уделяться на Западе значительно меньше внимания, чем раньше. Да, ритуальные слова по поводу наличия политических заключенных говориться будут. Да, будет принято еще несколько громких заявлений. Но не более того. Сделать больше можно было в паническом для белорусской власти 2011 году, который прошел так, как прошел.

В 2011 году, который мог стать годом нашей европеизации, началось активное поглощение Беларуси российскими олигархическими структурами. Начатый со скрытной (словно продавалось не национальное достояние, а что-то из личных вещей Лукашенко) продажи "Белтрансгаза", этот процесс, угрожающий потерей государственной независимости, имеет очевидную тенденцию к продолжению. При отсутствии реформ, при неэффективной экономике это просто неизбежно — и правительство уже заявило о возможной продаже той части нефтепроводов, которая еще принадлежит белорусам.

Все пойдет с молотка.

Таковы в главном новые рамочные условия, в которые входит сегодня белорусское общество. **Запад, чтобы не напрягать отношения с Россией, не предполагает активизировать "белорусский вопрос", а Россия не собирается уменьшать активность в "распиле" белорусской экономики. За счет этого распила Лукашенко и планирует удерживать власть.**

Я хочу спросить белорусское правительство, белорусский (какой он ни есть) парламент, руководителей пока еще белорусских предприятий: вы разве не понимаете, в сеансе какой одновременной игры принимаете участие? Что всем будет поставлен русский мат — с разницей только в том, кому и на каком ходу. Что невозможно, начав игру в поддавки, затем перевести ее в игру в шахматы.

Так не играют — так проигрывают.

Если кто-то забыл, напомню: так делили в восемнадцатом веке Речь Посполитую. Трижды распилили. Белорусская земля была частью распила.

Если кто-то не помнит — так покупали лояльность Гитлера ценой чешских Судетов и польской Силезии уже в веке двадцатом. А там и пакт Молотова—Риббентропа подоспел. Распилили нас в четвертый раз.

*"В 2015 году,* — уверенно прогнозируют специалисты авторитетного аналитического центра "Stratfor" (США), — *Беларусь будет полностью интегрирована с Россией".*

Если и сейчас кто-то не понял, что именно нам грозит, поясняю: **ИНКОРПОРАЦИЯ.** Даже при сохранении, на чем Запад (пока) настаивает, формальной независимости.

"Пятый распил" будет осуществляться по частям. Сразу заглотнуть нас трудновато: много глаз смотрит, да и основные мировые центры влияния теперь в распиле не участвуют. Поэтому каждый день будет отдаваться частичка нашего суверенитета. На земле и в небе, которое уже отдано. Распилено. Контроль за системой ПВО, переходящий в руки российских военных, — это и есть распил белорусских небес. С не заставившими себя ждать заявлениями власти и ее пропаганды, что это есть хорошо. Что русские деньги пойдут на содержание белорусской армии. Не говорят только, кому эта армия в таком случае будет служить.

Еще не говорят, что ПВО — это ракеты. Сначала, разумеется, без ядерных боеголовок. И уж совсем молчат о том, что это ответ России в Беларуси на американское ПРО в Европе. Что именно за военные соглашения с Россией Лукашенко получил нефтяные и прочие преференции аж да 2015 года. Как раз да того времени, когда они ему станут не нужны — и он никому не будет нужен.

Распилив сегодня наше небо, распилят и воду, которая уже становится дефицитом. Построят в сердце Беларуси не только АЭС, но и ядерные могильники. И будут доказывать нам, что это хорошо. Выгодно, потому что за свалку радиоактивных отходов платят.

Это плата за смерть. Нас хотят распилить и выбросить на свалку истории. И что мы делаем? Дискутируем: участвовать нам в "парламентских выборах" или бойкотировать их? Втягиваемся в споры, имеющие искусственное — и явно отвлекающее — происхождение. Решаем: созывать для определения общей позиции по "выборам" съезд или собирать конгресс?.. В то время как ответственность за проведение, а главное, за результаты этих "выборов" публично возложена на КГБ, председатель которого назначен, по сути, председателем избирательной комиссии.

Мы слепые? Сумасшедшие? Памяркоўныя? Тутэйшыя? Какие мы?..

Проблема в том, что никакие.

Чтобы не допустить окончательного распила Беларуси, необходимо остановить распил белорусов. Распил напополам, как сейчас нас распиливают. Нужно остановить распил нашего национального самосознания, которое, как бы и кто бы ни доказывал, что его нет, — есть! Именно поэтому его пилят, пилят и пилят.

"Пилите, Шура, пилите..."

Кто виноват и что делать?

Кто виноват — понятно. Для оппозиции понятно, что виновата власть. Лукашенко. Для власти понятно, что виновата оппозиция. Пятая колонна. То, что Лукашенко есть, а пятой колонны нет, не имеет значения.

Что делать? Спасаться. Вопрос: как? Не так, как спасаемся сейчас. И Лукашенко, и правительство, и оппозиция, и все спасаются сейчас за счет Беларуси. Не мы спасаем ее — она спасает нас. Небом. Водой. Землей. Независимостью. А нужно не так — нужно всем спасать ее. Ее небо. Ее воду. Ее землю. Ее независимость.

Что необходимо для этого? Для начала: **ВСЕМ СОБРАТЬСЯ во СПАСЕНИЕ.** Вот в чем должна быть идея съезда. Всебелорусского. Это не должен быть партийный съезд — второй конгресс демократических сил. Не для того, чтобы определиться с участием в выборах, нужно его созывать.

А созывать, собирать нужно. Чтобы всем белорусским миром (предложив это и пока еще белорусскому правительству, и, какой он ни есть, белорусскому парламенту) определить и установить неотложные меры по спасению. Иначе отдадим не только небо, воду, землю, независимость. Душу. И не России — это Бог бы с ней. Дьяволу, если не спасем и не спасемся.

## ОТ РЕДАКЦИИ

***Так, над Беларусью, над всеми, кто живет на ее земле, нависла большая опасность.***

***Что могут сделать читатели "Народной Воли" во имя общего спасения? Прежде всего, прочитав эту статью, предложите ознакомиться с ней своим друзьям, родственникам, сослуживцам, соседям… И всем миром подумаем над выходом из труднейшего положения.***

***"Народная Воля" готова в каждом номере печатать материалы, касающиеся этой судьбоносной темы.***

АФІЦЫЙНА

## Рабочая нядзеля

У Беларусі рабочы дзень з пятніцы 9 сакавіка пераносіцца на нядзелю 11 сакавіка.

Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў у першы дзень вясны, тым самым не падтрымаўшы прапанову Саўміна зрабіць на жаночае свята вялікія выхадныя, а адпрацаваць у суботу 17 сакавіка.

Праўда, указам пазначана, што арганізацыям прадастаўлена права з улікам спецыфікі вытворчасці ажыццяўляць перанос працоўнага дня ў іншым парадку.

## Вірусы не актыўнічаюць

На дадзены момант у Беларусі актыўнасць вострых рэспіраторных інфекцый (ВРІ) знаходзіцца на нізкім узроўні, аднак не выключана, што ўздым захворванняў адбудзецца ў сакавіку-красавіку.

Пра гэта паведаміла галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя **Іна Карабан.**

Па яе словах, зараз сукупнае рэспіраторнае захворванне па краіне не дасягае эпідэмічнага парога. Вынікі медыцынскага нагляду сведчаць толькі аб актыўнай цыркуляцыі негрыпозных рэспіраторных вірусаў. Хаця традыцыйныя для Беларусі тэрміны пачатку эпідсезона (канец студзеня — люты) ужо мінулі, аднак многае залежыць ад сітуацыі ў еўрапейскім рэгіёне. Цяпер там карціна такая: прыблізна ў палове краін актыўнасць грыпу знаходзіцца на нізкім, а ў другой — на сярэднім узроўні. Цяперашні сезон грыпу ў Еўропе таксама пачынаецца некалькі пазней у параўнанні з папярэднімі гадамі. Цыркулюе ў Еўропе ў асноўным вірус А.

ЛИЦА

## Кто же она, Ермошина?

*Многие СМИ распространили беседу секретаря ЦИК Николая Лозовика с журналистом "Еврорадио". Когда речь зашла о его непосредственной начальнице, всем известной Лидии Ермошиной, Лозовик сказал:*



*— Я думаю: она, по-моему, даже и не белоруска. Или белоруска? Нет, в анкете она указывает, что она украинка.*

Если кого-то из наших читателей интересует более подробная информация о "происхождении" Л.Ермошиной, то, заметим, она ею поделилась еще 20 октября 2009 года на страницах газеты "Советская Белоруссия". В ответ на вопрос корреспондента она тогда сказала:

*"Я родилась, выросла и прожила большую часть жизни в СССР. Поэтому я дорожу этой частью жизни. Мой отец — советский офицер, украинец по национальности, моя мать русская..."*

Понятно, по закону пост председателя Центральной избирательной комиссии у нас может занимать человек любой национальности, важно только, чтобы он имел белорусское гражданство. Другое дело, сколько лет в этой должности госпожа Ермошина. И почему демократическое сообщество страны, а также весь цивилизованный мир регулярно не признают результаты как президентских, так и парламентских выборов, которые, по статусу, объявляет та же Л.Ермошина? Степень ее "заслуги" в этом для разумных людей понятна.

РЭГІЁНЫ

## Нягледзячы на прымірэнне

*У Гомелі суд над урачамі, з-за неасцярожнасці якіх загінула маладая пацыентка, працягнецца, нягледзячы на часовае прымірэнне.*

У сакавіку мінулага года двое акушэраў-гінеколагаў аперыравалі 25-гадовую пацыентку. Кесарава сячэнне павінна было прайсці без ускладненняў, але медыкі па неасцярожнасці пашкодзілі некалькі сасудаў. Прычыну крывацёку ўстараняць не сталі, і праз некалькі гадзін пацыентка загінула ад вялікай страты крыві. У судовай калегіі па крымінальных справах Гомельскага абласнога суда ўпэўнены, што за няшчаснай не наглядалі належным чынам. У ходзе расследавання высветлілася, што падчас аперацыі акушэры забыліся ў жываце пацыенткі сурвэтку...

Нягледзячы на даказаныя факты віны медыкаў, раней суд прыпыніў справу. Муж памерлай пагадзіўся на мірнае вырашэнне канфлікту пасля таго, як кожны з акушэраў перадаў яму па 3720 долараў ЗША. Між тым пракуратура аспрэчыла рашэнне аб прыпыненні судовага разгляду справы, і вінаватым зноў прыйдзецца адказваць перад законам. Дарэчы, медыкі не прызнаюць сваёй віны.

## У Лідзе арганізаваны трацейскі суд

*Ён будзе займацца камерцыйнымі спрэчкамі.*

Трацейскі суд ужо зарэгістраваны галоўным упраўленнем юстыцыі Гродзенскага аблвыканкама. Спіс суддзяў у Лідзе будзе складацца з сямі чалавек. Яны будуць вырашаць камерцыйныя спрэчкі як паміж рэзідэнтамі, так і нерэзідэнтамі Беларусі. Вось чаму да слова "трацейскі" яшчэ дададзена "міжнародны".

Усяго ў 2012 годзе ў Беларусі плануецца стварыць 11 трацейскіх судоў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

СТОП-ЛІСТ

## Чорны спіс

Еўрасаюз апублікаваў прозвішчы асоб, далучаных да спісу беларусаў, якім забаронены ўезд у краіны Еўрапейскага Саюза. Такім чынам, забарона на ўезд цяпер распаўсюджваецца на 231 прадстаўніка нашай краіны.

У новым спісе пазначаны 21 чалавек, сярод іх 20 супрацоўнікаў судовай сістэмы Беларусі і міліцэйскі чыноўнік. Яны абвінавачваюцца ў парушэнні правоў чалавека.

У адпаведнасці з рашэннем Савета ЕС ад 27 лютага санкцыі распаўсюдзіліся на:

**1.Барсукова Аляксандра,** начальніка мінскай міліцыі. "*Адказны за рэпрэсіі ў адносінах да шэрагу мірных пратэстуючых у Мінску, што былі ў далейшым абвінавачаны ў парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. На працягу некалькіх гадоў загадваў міліцэйскімі дзеяннямі супраць вулічных пратэстаў апазіцыі".*

**2.Пуцілу Уладзіміра,** старшыню Мінскага гарадскога суда. Разглядаў апеляцыі Паўла Севярынца, Віталя Рымашэўскага і Аляксандра Атрошчанкава. *"Адмовіў у задавальненні іскаў супраць вынесеных вердыктаў (судамі ніжэйшай інстанцыі), відавочна парушыўшы Крымінальна-працэсуальны кодэкс".*

**3.Валчкову Марыяну,** суддзю суда Партызанскага раёна г.Мінска. *"Неаднаразова прысуджала турэмныя зняволенні і штрафы мірным пратэстуючым і, як вынік, нясе адказнасць за рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасці і дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі".*

У дачыненні да ўсіх іншых суддзяў абгрунтаванне ўнясення ў "чорны спіс" — такое самае. У яго трапілі:

**4.Рэлява Аксана,** суддзя суда Савецкага раёна г.Мінска.

**5.Хвайніцкая Жанна,** суддзя суда Заводскага раёна г.Мінска.

**6.Мазоўка Анжаліка,** суддзя суда Савецкага раёна г.Мінска.

**7.Кочык Аляксандр,** суддзя суда Партызанскага раёна г.Мінска.

**8.Каровіна Наталля,** суддзя суда Фрунзенскага раёна г.Мінска.

**9.Гарбатоўскі Юрый,** суддзя суда Першамайскага раёна г.Мінска.

**10.Люштык Сяргей,** суддзя суда Першамайскага раёна г.Мінска.

**11.Якунчыхін Аляксандр,** суддзя суда Цэнтральнага раёна г.Мінска.

**12.Запаснік Марына,** суддзя суда Ленінскага раёна г.Мінска.

**13.Дубініна Жанна,** суддзя суда Заводскага раёна г.Мінска.

**14.Красоўская Зінаіда,** суддзя суда Ленінскага раёна г.Мінска.

**15.Германовіч Сяргей,** суддзя суда Кастрычніцкага раёна г.Мінска.

**16.Свістунова Валянціна,** суддзя суда Цэнтральнага раёна г.Мінска.

**17.Шайко Іна,** суддзя суда Цэнтральнага раёна г.Мінска.

**18.Лапо Людміла,** суддзя суда Фрунзенскага раёна г.Мінска.

**19.Барысёнак Анатоль,** суддзя суда Партызанскага раёна г.Мінска.

**20.Юферыцын Дзмітрый,** суддзя суда Ленінскага раёна г.Мінска.

**21.Зянкевіч Валянціна,** суддзя суда Ленінскага раёна г.Мінска.

НУ І НУ!

## Чаму ў «чорныя спісы» трапляюць «мёртвыя душы»?

Што і казаць, так званы "чорны спіс" выклікаў скандальную рэакцыю беларускіх улад. Еўрапейскія СМІ называюць сітуацыю нават не "канфліктам", а "дыпламатычнай вайной".

Здавалася б, кожнае прозвішча ў "чорным спісе" павінна быць выверана з усіх бакоў. Але дзе там! Апошні дадатак да агульнага "спісу неўязных" складзены, мякка кажучы, некарэктна і неахайна.

Нагадаем, што некалькі гадоў таму першымі ў "чорныя спісы" трапілі тыя, хто, на думку еўрапейскіх палітыкаў, меў дачыненне да знікнення апанентаў беларускай улады. "Героі", зразумела, наракалі, але дэмакратычныя назіральнікі прызналі: пакаранне справядлівае.

Потым спісы неўязных у Еўрасаюз папоўніліся прозвішчамі сілавікоў, якія мелі непасрэднае дачыненне да брутальных разгонаў вулічных акцый апазіцыі, — тых, хто аддаваў загады і непасрэдна ўдзельнічаў у гэтых разгонах.

Суддзі трапілі ў "чорныя спісы" пасля прэзідэнцкай кампаніі 2006 года, калі толькі цягам трох сутак, паводле статыстыкі праваабаронцаў, за кратамі апынуліся больш за 1500 чалавек. Тады людзей прывозілі аўтобусамі ва ўсе суды сталіцы і судзілі ад раніцы да позняга вечара як дробных хуліганаў. Ніводны з суддзяў не перакваліфікаваў справу ў палітычную, бо пазбягалі палітычных афарбовак, такіх як, напрыклад, удзел у несанкцыянаванай акцыі. Судзілі за лаянку, якая на самай справе не мела месца, за нейкія іншыя выдуманыя дробныя правапарушэнні, давалі "суткі". А потым моладзь адлічвалі з навучальных устаноў, ідэолагі сачылі, каб "вінаватага" выгналі з працы, вертыкальшчыкі і кіраўнікі выбаркамаў атрымлівалі прэміі... Таму і трапілі ў "спісы неўязных у ЕС" усе, хто спрычыніўся да гэтых падзей. Акрамя суддзяў, гэта былі рэктары вядучых ВНУ, самыя адыёзныя ідэолагі, мясцовыя вертыкальшчыкі, старшыні некаторых участковых камісій, якія, згодна са звесткамі назіральнікаў, спрычыніліся да фальсіфікацыі вынікаў галасавання.

Ужо тагачасныя спісы выклікалі шмат крытычных заўваг як з боку ўлад, так і з боку апазіцыянераў, шырокай грамадскасці. Напрыклад, высветлілася, што ў спісе ёсць прозвішчы людзей, якія падчас правядзення выбарчай кампаніі ўжо не займалі пазначаных пасад. Знайшлося і прозвішча чалавека, якога на момант складання спісаў, на жаль, ужо не было ў жывых.

Памылкі Брусель хутка выправіў. Але сапраўдную работу над памылкамі тыя, хто мае дачыненне да фарміравання "чорных спісаў" ЕС, не правялі.

Возьмем апошні дакумент.

Абсалютна незразумела, чаму ў "чорны спіс" 2012 года занесена прозвішча суддзі Савецкага раёна сталіцы Аксаны Рэлявы: яна ж унесена ў "стоп-лісты" яшчэ ў пазамінулую выбарчую кампанію.

Такая ж сітуацыя і з прозвішчам суддзі Алены Шайко. Яно таксама ўжо даўным-даўно знаходзіцца ў "чорных спісах". Дарэчы, на сённяшні дзень спадарыня Шайко ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска не працуе.

Здзіўленне прадстаўнікоў судовага корпусу, якія адзін аднаго ведаюць, выклікае і тое, што ў спісы неўязных у краіны Еўрапейскага Саюза трапіў Дзмітрый Юферыцын. Згодна з брусельскім дакументам, гэты суддзя працуе ў судзе Ленінскага раёна Мінска. На самай справе ўжо не працуе. Ён уладкаваўся туды на працу ў 2010 годзе, прарабіў менш за год і ў 2011-м звольніўся. Калі ў Брусэлі вырашылі вярнуцца да ранейшых спраў, якія разглядаў гэты суддзя, то чаму ўсё адбываецца з такім спазненнем? Чаму прозвішча гэтага суддзі не з'явілася ў "чорных спісах" раней? А можа, усё правільна? За парушэнне правоў чалавека службовыя асобы павінны несці адказнасць без тэрміну даўнасці.

У той жа час апошнім часам на слыху прозвішчы начальнікаў папраўчых калоній, турмаў, дзе трымаюць палітвязняў. Менавіта там адбываецца прэсінг, менавіта там палітвязням пагражаюць камерамі з так званымі "апушчанымі" (якія, натуральна, самі па сабе ў пенітэнцыярных установах без ведама кіраўніцтва з'явіцца не могуць), менавіта там палітвязні трапляюць у штрафныя ізалятары, тыднямі не атрымліваюць карэспандэнцыю, не могуць сустрэцца з адвакатамі, патэлефанаваць дадому, напісаць лісты... У той жа час няма ў апошнім спісе ЕС прозвішчаў людзей з Дэпартамента выканання пакаранняў. Чаму?..

**Любоў ЛУНЁВА.**

